671_632.qxd 12/26/2021 3:08 PM Page 1 (3,1)




# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 1(671)
Студзень 2021 г.








## Шаноўныя сябры!

Разам са студзеньскім нумарам нашага бюлетэня ўсе падпісчыкі атрымаюць таксама **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2022 год.** Падпісчыкі, хто захоча мець больш чым адзін асобнік календара, ці тыя асобы, хто яшчэ не выпісваюць бюлетэнь, могуць яго замовіць у інтэрнэце па адрасу: ***krama.yahoosites.com*.**

Кошт аднаго календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$10**, з дасылкаю ў Канаду **$12**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$15**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:
***Marat Klakotski/ P. O. Box 3225/ Farmingdale, NY 11735***
Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.

# Прэзэнтацыя альманаху "Беларус"

У суботу 11 сьнежня ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне адбылася прэзэнтацыя літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа "Беларус" за 2021 год. Напачатку старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які вёў імпрэзу, ва ўступнім слове сказаў, што "Беларус" выдаецца ўжо 14 год, і цяперашні выпуск – ужо 15-ы! Гэта выдатная пляцоўка для ўсіх, хто ў замежжы піша пабеларуску і хоча друкавацца. Затым вядучы прадставіў рэдактара альманаху сп. Марата Клакоцкага і перадаў яму слова.

Сп. Клакоцкі прывітаў прысутных і падзякаваў за ўдзел у прэзэнтацыі. Ён коратка распавёў пра гісторыю заснаваньня і выданьня "Беларуса" і адказаў на пытаньні, зьвязаныя зь сёлетнім выпускам. Ён прапанаваў прысутным задаваць пытаньні, каб адбылася свайго кшталту нязмушаная гутарка па тэматыцы выданьня альманаху. Першае пытаньне было аб тым, як новыя аўтары выходзяць на рэдакцыю. Большасьць зь іх даведаліся пра альманах ад сяброў ды знаёмых. Нехта знайшоў рэдактара сам. Наагул, з аўтарамі самага першага выпуску было так: падчас рэдагаваньня газэты "Беларус" у рэдакцыю, акрамя артыкулаў ды зацемак, прыходзілі таксама творы большага фармату, якія немагчыма было надрукаваць у газэце. Такія творы адкладаліся і пазьней акурат зь іх і склаўся першы нумар "Беларуса" ў 2007 годзе, які тады быў літаратурным дадаткам да газэты.

Затым былі пытаньні да сп. Клакоцкага, на якія ён з прыемнасьцю адказваў. Пра тое, ці выходзіць альманах у электронным фармаце, адказ быў: "Не, не выходзіць, бо гэта патрабуе адмысловай працы, ведаў і тэхнічнага забясьпечаньня". Якія творы з цяперашняга выпуску найбольш падабаюцца – успаміны людзей з рэальнага жыцьця, мэмуарныя запісы Анатоля Занковіча, Адама Акуліча. Які крытэр адбору твораў? Найперш гэта беларускамоўная творчасьць асобаў, што жывуць па-за межамі Беларусі, ну і каб адпавядалі мінімуму кагерэнтнасьці тэксту як літаратурнага твора. Узровень безумоўна адрозны, але задачай ёсьць не выяўленьне геніяў, а стымуляваньне і падтрымка літаратурнай творчасьці пабеларуску ў замежжы, і праз гэта падтрымка беларускай культуры, беларускага ўсьведамленьня сярод грамады ця-

*працяг на бачыне 2*

671_632.qxd 12/26/2021 3:09 PM Page 3 (1,2)



## Прэзэнтацыя альманаху

працяг з бачыны 1

перашніх выхадцаў зь Беларусі. Куды рассылаецца альманах – фактычна па ўсім сьвеце, і на гэта ідзе значная колькасьць агульных выдаткаў на выданьне. Сярод бібліятэкаў, якія атрымліваюць “Беларуса”: Нацыянальная Бібліятэка Беларусі, Бібліятэка Кангрэсу ЗША, бібліятэкі вядучых унівэрсытэтаў з цэнтрамі па славяназнаўстве. Ці акупляецца гэты выдавецкі праект? Калі вылічваць прыбыткі ад продажу – то не. Але, дзякуючы ахвяраваньням дабрадзеяў, грошай пакуль што хапала на выданьне і рассылку.

Затым сп. Аляксандар Хомчанка прачытаў зварот ад адной з аўтарак альманаху сп-ні Галіны Пазьняк. Яна павіншавала ўдзельнікаў прызэнтацыі з выхадам чарговага выпуску “Беларуса” і адзначыла, што “мастацкая літаратура перадае лёсы народу. І таму яна так важная для нас. Мне ўдалося запісаць гутаркі з выбітнымі беларусамі – Міхасём Навумовічам, Лёляй Міхалюк, Алесем Чахольскім, і вось у гэтым выпуску – з Гэнікам Лойкам і Валерам Мінцом. Гэта лёсы людзей, што прайшлі праз шматлікія цяжкасьці, празь перасьлед, зьняволеньне – але засталіся верныя беларускай справе. Найлепшыя зычэньні рэдактару альманаху сп. Клакоцкаму, які робіць так шмат у гэтай справе”.

Наступным узяў слова сп. Віталь Зайка, вядучы і адзін з аўтараў альманаху. Ён падкрэсьліў важнасьць выдавецкага асяродку і мастацкага слова для беларусаў на чужыне і падзякаваў рэдактару за ўсё, што ён робіць дзеля гэтага, кантактуючы з аўтарамі, зьбіраючы творы, выконваючы тэхнічныя працэдуры, неабходныя для выданьня і рассылкі выпускаў. Істотным ёсьць тое, што альманах досыць шырака разыходзіцца па асноўных бібліятэках. Такім чынам усе элемэнты ланцугу аўтар-выдавец-чытач быццам на месцы. Але чаго не хапае – гэта крытыкі, якая б карэктавала, накіроўвала ў пэўным сэнсе творчасьць аўтараў, і таксама інфармавала б патэнцыйных чытачоў і дасьледчыкаў пра адзінае выданьне беларускіх пісьменьнікаў у замежжы. Прамоўца таксама распавёў пра сваё апавяданьне “Землятрус”, апублікаванае ў цяперашнім выпуску. Яно задумвалася як алегарычны адказ на падзеленасьць Амэрыкі ў няпростыя цяперашнія часы і пра вар’яцтва неправераных, але модных ідэяў, пра разуменьне і паразуменьне, так неабходныя сёньня.

Потым у межах прэзэнтацыі прайшла мініпрэзэнтацыя твору адной з аўтарак альманаху Ірыны Хадарэнка. Гэты твор называецца “Падручнік партызанкі” і цалкам яго можна знайсьці ў сеціве. Ён створаны ў электронным выглядзе, а фрагмэнт зь яго быў якраз надрукаваны ў “Беларусе” сёлета. Спампаваць гэты твор можна ў бібліятэцы “Камунікату”. Ён у значнай ступені ёсьць рэакцыяй на падзеі з часоў прэзыдэнцкіх выбараў 2020 году і таго, што за гэтым пачалося. Калі людзі выходзяць на змаганьне, яны мусяць мець яснае ўяўленьне ня толькі пра тое, за што яны змагаюцца, але таксама – як яны мусяць змагацца, каб перамагчы. Кінуць выклік вялізнай рэпрэсіўнай машыне, што дыктатура ўтрымлівае за народныя грошы – рэч няпростая, і наіўна спадзявацца на перамогу, ня ведаючы як менавіта перамагчы, якія крокі зрабіць для гэтага, якімі сродкамі карыстацца, якія мэтады ўжываць, ня маючы “мэтадычкі” для змаганьня і перамогі. Дык вось гэты твор і ёсьць спробаю стварэньня такой “мэтадычкі”, падручніка для арыентацыі ў справе, за якую ўзяўся, якая нясе небясьпеку ўласнай свабодзе, здароўю і жыцьцю. Як перамагчы, захаваўшы (па мажлівасьці) сваё свабоду, здароўе і жыцьцё. Прамоўца адзначыла, што яна лічыць памылковым курс на выключна мірныя, негвалтоўныя пратэсты. “Я ня ўпэўненая, што дзяўчаты з парасонамі, карнавалізацыя пратэсту нешта кардынальным чынам зробяць. На бескампраміснае ўжыцьцё сілы, якое было прадэманстраванае рэжымам, адказам мусіць быць арганізацыя, тэхналёгія барацьбы і, па мажлівасьці, таксама ўжыцьцё сілы або прынамсі мэтанакіраваных дзеяньняў, што непасрэдна супрацьдзеілі б сіле рэжыму”. Далей прамоўца сказала: “Калі выходзіш на пратэст, 90% верагоднасьці таго, што апынешся за кратамі. І да гэтага трэба быць падрыхтаваным і псыхалягічна, і матэрыяльна – каб не зламацца і аблегчыць побыт у зьняволеньні. У 2006 і 2010 гадох мы выходзілі на пратэсты, як на вайну, былі гатовыя сесьці – але й думалі, як абхітрыць амонаў. “Падручнік партызанкі” – спроба ў гэтым кірунку”. Ад публікацыі гэтага тэксту адмовіліся ўсе выдавецтвы, хоць там няма рэцэптаў выбухоўкі й падобных рэчаў. Там ёсьць раздзелы пра самаабарону, рэчы, дачычныя грамадзкай супольнасьці, падрыхтоўку лідэраў. “Калі інфармацыя з “Падручніку” зьберажэ хаця б 2-3 чалавекі ад пасадкі за краты, я палічу сваю місію выкананай. Безумоўна, паралельна мусіць ісьці інфармаваньне людзей пра цывілізацыйны выбар паміж цывілізацыяй Захаду і дзікунствам Усходу. Калі гэты выбар будзе ўсьвядомлены, дойдзе да пасыянарнай часткі насельніцтва – тады можна будзе казаць пра рэвалюцыю сьведамасьці, якая натуральным чынам нізрыне гэты рэжым.

Аўтарка адказала на пытаньні пра выбары 2020 году і С. Ціханоўскую, пра “балоцьвіну” – апалітычнае насельніцтва, зь якім трэба працаваць, пра непатрэбны падзел і варагаваньне паміж тымі хто на Бацькаўшчыне і хто ў эміграцыі. На заканчэньне прагучэлі некалькі вершаў Ірыны Хадарэнкі ў выкананьні сп. Сержука Сая, цёпла прынятыя прысутнымі.

Сп. Віктар Едзіновіч стаў дэбютным аўтарам альманаху, апублікаваўшы сёлета свой першы твор. Ён выступіў перад прысутнымі і распавёў пра сваю цікавасьць да літаратуры, і чаму ня ўзяўся за асадку раней. “Заўсёды адчуваў у сабе здольнасьць пісаць, але стрымліваў сябе, бо хацеў напісаць толькі пра тое, аб чым ніхто яшчэ не пісаў. Цікавасьць да падзеяў 2-й сусьветнай вайны пераўвасобілася ў мастацкі твор, цалкам заснаваны на рэальных падзеях і асобах. Падзеях вайны, так бы мовіць, “з таго бо-

заканчэньне на бачыне 4



671_632.qxd 12/26/2021 3:09 PM Page 3 (3,2)





# Зацемкі пра нацыю і свабоду

Спачатку ўзьнікае ўсьведамленьне сваіх і чужых. Потым зьяўляецца сьведамасьць агульнай мовы і тэрыторыі. Затым настае дзеяньне па забесьпячэньні парадку і свабоды дзеля жыцьця кожнага і для ўсіх сваіх. Фармуецца нацыянальная ідэалёгія. Ствараецца нацыянальная дзяржава. Тут схема ўтварэньня нацыі.

Асобным чыньнікам у гэтым разьвіцьці ёсьць рэлігія. Яна ўлучана ў працэс жыцьця нацыі і адыгрывае кансалідуючую ролю. Калі рэлігія ня ўлучана ў нацыянальны працэс, тады нацыя можа страціць свабоду альбо нават яе не здабыць. Пэрыяд утварэньня нацыяў – XVIII — пачатак XX-га стагоддзяў.

* * *

Нацыя – гэта вынік разьвіцьця і дзейнасьці народа. Па сваёй грамадзкай прыродзе нацыя імкнецца да сумеснага існаваньня, да агульнай супольнай справы, выяўляе імкненьне да дэмакратычнай формы ўлады.

Нацыя стварае ўмовы для гістарычнага аптымальнага разьвіцьця супольнасьці, зацікаўлена і спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы ў межах нацыянальнага парадку і нацыянальнай свабоды. Нацыя абараняе нацыянальныя каштоўнасьці, нацыянальную супольнасьць, нацыянальную ідэнтычнасьць, нацыянальную асобу і нацыянальную свабоду.

* * *

Калі нацыя траціць свабоду (напрыклад, у выніку акупацыі), яна здольная выжыць тады, калі зможа зьберагчы сваю мову, рэлігію і культуру. Гэта залежыць ад волі акупаванай нацыі, ад рэжыму акупацыі і ад часу трываньня несвабоды. Вельмі важна таксама зьберагчы этнічную (аўтэнтычную) частку насельніцтва.

Калі ва ўмовах несвабоды дзейнічае палітыка акупантаў аб ліквідацыі нацыі шляхам генацыду, этнацыду, лінгвацыду, асыміляцыі, фізічнага вынішчэньня набілітэту, элітаў, актыўных, разумных і заможных людзей, асацыяцыяў і носьбітаў культуры, тады нацыя яшчэ можа нейкі час выжываць, захоўваючы мову, нацыянальную сьведамасьць і пачуцьцё нацыянальнай годнасьці.

Нацыянальная годнасьць і мова – гэта тое першае, што імкнецца разбурыць зьнішчальнік, гэта значыць – зламаць волю да супраціву, да захаваньня сябе і сваёй тоеснасьці, прышчапіць псіхалогію нявольніка (раба), залежнага ад нішчыцеля і акупанта.

* * *

Першай прыкметай зьяўленьня нявольніцкай (каляніяльнай) псыхалёгіі становіцца адмаўленьне ад нацыянальнай мовы.* Адмаўленьне ад мовы – гэта ёсьць адмаўленьне ад свабоды. Гэта крок у псыхалягічнае падпарадкаваньне перад акупантам (каляніялістам). Гэта параліч жаданьня і волі да барацьбы за нацыю. Тым часам толькі праз супраціў і змаганьне можна вярнуць незалежнасьць і свабоду.

* * *

Чым даўжэй цягнецца акупацыя і палітыка ліквідацыі нацыі, тым цяжэйшыя ўмовы і магчымасьці для нацыянальнага адраджэньня і свабоды, бо ў выніку доўгіх пастаянных рэпрэсіяў і ўціску адбываецца нэгатыўны генэтычны і сацыяльны адбор насельніцтва, дзе нявольніцкая (каляніяльная) псыхалёгія становіцца натуральнай зьявай, тыпам думаньня і паводзінаў.

Для нацыі, якая знаходзіцца ў пэрманэнтным крытычным стане акупацыйных рэпрэсіяў і выжываньня, істотным чыньнікам адраджэньня зьяўляецца наяўнасьць ідэі нацыянальнага адраджэньня і жыцьцё носьбітаў гэтай ідэі. Пакуль ёсьць носьбіты і генэратары адраджэньня, нацыя мае магчымасьць адрадзіцца цалкам, нягледзячы на тое, што нішчыцелямі сьветачаў нацыянальнай свабоды становяцца таксама свае "нявольнікі", дакладней, жыхары, што вырасьлі ў няволі і перанялі ідэалёгію акупантаў.

Сацыяльна-псыхалягічная складанасьць у тым, што нявольнікі чужой волі ёсьць аўтэнтычным аб'ектам адраджэньня нацыі. Адраджэньне магчымае тады, калі зьявяцца вольныя людзі, пазбаўленыя нявольніцкага думаньня; яно здольнае перамагчы тады, – калі ўзьнікне крытычная маса такіх людзей. (Прытым не абавязкова каб іх была бальшыня.)

* * *

Адраджэньне пачынаецца ад ідэі, ад усьведамленьня годнасьці і адчуваньня ідэнтычнасьці сваёй супольнасьці. Наступны крок – прызнаньне нацыянальнай мовы сваёй мовай, нават жывучы ў рэжыме чужой асыміляцыі (гэта значыць, не валодаючы сваёй мовай). Чарговы крок – вяртаньне да нацыянальнай мовы. (Часам яно вымагае аднаго-двух пакаленьняў.)

Адраджэньне нацыі рухаецца, як правіла, у рэжыме паскарэньня, патрабуе меншага часу для рэалізацыі, але мераецца пакаленьнямі.

* * *

Вымушаная гвалтоўная страта нацыянальнай тэрыторыі (прымусовае перасяленьне на чужыну, масавая дэпартацыя з радзімы, асабліва з распарушэньнем народу па розных месцах) – гэта нацыянальная катастрофа.** Ацаленьне нацыі залежыць тут ад салідарнай волі пераселеных, ад рэжыму на чужой тэрыторыі, ад дэмаграфічнага адзінства і ад часу трываньня на чужыне***.

Пры невяртаньні на сваю зямлю, ва ўмовах пэрманэнтнага працягу рэпрэсій, асыміляцыі, адмаўленьня ад нацыянальнай мовы і адсутнасьці супраціву – нацыя зьнікае. (Выключэньнем стаў толькі габрэйскі народ, які ад старажытнасьці меў прыкметы нацыі.)

*7 сьнежань 2021 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

* Трэба адрозьніваць сьведамы індывідуальны выбар, асабістае адмаўленьне ад сваёй нацыянальнай мовы (пры захаваньні прыналежнасьці да нацыі) і пасыўнае (часта неўсьвядомленае) падпарадкаваньне асіміляцыйным моўным абставінам у акупаваным социюме пры захаваньні ідэнтычнасьці.

**Дабрахвотнае (негвалтоўнае) перасяленьне часткі народнай супольнасьці на іншыя малазаселеныя тэрыторыі (вядомыя ў гісторыі як калянізацыя) не зьяўляецца народнай катастрофай, прыводзіць да пашырэньня анкляву расьсяленьня альбо да ўтварэньня новых (эміграцыйных) нацыяў.

***Палітычная эміграцыя часткі нацыянальнай супольнасьці ў іншыя краіны можа мець выратавальнае значэньне для прыгнечанай мэтраполіі, калі эміграцыя адбылася ў выніку ўцёкаў ад акупацыі, ад генацыду і нацыянальнага перасьледу. Але ўзровень нацыянальнага разьвіцьця ў эміграцыі залежны з большага ад тых жа чыньнікаў, што і пад акупацыяй (нацыянальная воля, нацыянальная сьведамасьць, нацыянальная мова, нацыянальная салідарнасьць, нацыянальная адукацыя і культура, рэлігія, пасыянарнасьць і інш.).

671_632.qxd 12/26/2021 3:08 PM Page 1 (1,2)






## У лістападзе 2021 году выйшаў у сьвет літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2021 г.

**Калі ласка, падтрымайце аўтараў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю!**

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**. Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

Замовіць новы нумар, так і ўсе папярэднія, можна і праз інтэрнэт, наведаўшы старонку ***e-krama.com.*** На сайце таксама можна зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару альманаха.

## Прэзэнтацыя альманаху

***заканчэньне з бачыны 2***

ку”. А на той вайне абодва бакі былі “харашы”. Карацей, на базе рэальных успамінаў напісаў мастацкі твор, а як атрымалася – хай судзіць чытач”.

Са словам да прысутных зьвярнулася сп-ня Валянціна Трыгубовіч. Яна ў прыватнасьці сказала: “Я – аддана чытач. І хачу выказаць сваё захапленьне выдавецкай працай сп. Клакоцкага. Бо ўзяцца і зрабіць адзін нумар нейкага выданьня на любую тэму можа шмат хто. Але нават другі нумар – ужо праблема, не хапае ведаў, сілаў, трэба шукаць аўтараў, знаходзіць рэсурсы. А тут мы маем ужо пятнаццаты выпуск выданьня, і якога! Гэта патрабуе вялізных намаганьняў, ахвярнасьці, сапраўднай зацікаўленасьці справай, якую робіш. Беларусы – гэта людзі кнігі. Так было ад пачаткаў – нацыянальнае адраджэньне пачыналася з выдаўніцтва. Мы нацыя, што ня мае свабоды ў рэальным жыцьці, і цяпер свабода яе – у літаратуры, мастацкім слове, выданьнях, такіх як непадцэнзурны альманах “Беларус”. Супраць гэтай свабоды працуюць платныя прафэсіяналы, што маюць усе рэсурсы для прыгнечаньня народу – на грошы гэтага самага народу. Варта зьвярнуцца да досьведу польскай “Салідарнасьці” 1980-х гадоў, калі змаганьне перайшло у іншаказаньне, чытаньне паміж радкоў, закадаваны, але дакладны і эфэктоўны зварот, які даходзіў да чытача і зрабіў сваю справу вызваленьня”.

Са сваімі ўражаньнямі ад імпрэзы выступіў таксама сябар управы БАЗА сп. Міхал Чаропка. Ён сказаў, што ўзрушаны і ўсьцешаны з таго, што ў нас адбываецца дзейнасьць па разьвіцьці беларускай культуры, мастацкага слова. “Праз гэта выконваецца задача пашырэньня беларускай прасторы, і гэта вельмі важна. Калі мы ў замежжы захаваем беларускасьць і пашырым яе – дык яна пашырыцца і на Бацькаўшчыне. Вялікі дзякуй усім, хто робіць гэтую справу – і рэдактару Марату Клакоцкаму, і аўтарам, і чытачам, і фундатарам-дабрадзеям”.

Затым пачалася нефармальная частка прэзэнтацыі, калі прысутныя мелі нагоду набыць асобнік новага выпуску “Беларуса”, узяць аўтографы ў прысутных аўтараў і рэдактара, а таксама пры келіху віна й пачастунках пагутарыць пра беларускае мастацкае слова, пра пашырэньне і ўдасканаленьне беларускай прысутнасьці ў сьвеце.

***Віталь ЗАЙКА***

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| К. Зянькова | 70 |
| К. Пляўга | 70 |
| Т. Баньнікава | 60 |
| А. Ганчароў | 60 |
| М. Іваніцкі | 60 |
| К. Макарэвіч | 60 |
| Т. Надзейка | 60 |
| С. Скрабко | 60 |
| А. Сярко | 60 |
| М. Троцкая | 60 |
| А. Троцкі | 60 |
| В. Хобатаў | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Дубяга | 60 |
| Н. Дудар | 60 |
| Я. Запруднік | 50 |
| У. Аляксееў | 30 |
| К. Зянькова | 30 |
| М. Іваніцкі | 30 |
| А. Курушка | 30 |
| А. Пранцэвіч | 30 |
| А. Сярко | 30 |
| В. Трыгубовіч | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** ***Viktar Yedzinovich.***

### *Шаноўныя сябры!*

*Калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на інфармацыйны бюлетэнь* ***“Весткі й Паведамленьні”.*** *(Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.)*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***